# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

3 КРАСАВІКА 1992 г.
пятніца, № 69 (21847)


**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.39, 19.48, 13.09;
Віцебск — 6.27, 19.39, 13.12;
Магілёў — 6.28, 19.37, 13.09;
Гомель — 6.24, 19.34, 13.10;
Гродна — 6.52, 20.04, 13.12;
Брэст — 6.56, 20.01, 13.05.

**МЕСЯЦ:**

Маладзік 3 красавіка.

**ІМЯНІНЫ:**

Якава, Кірыла, Фамы; Рышарда, Панкраца.

# ВОЗГАЛАС

## АЛЁ, ЛОНДАН? МІНСК НА СУВЯЗІ!

З замежных фільмаў і кніг, а каму-нікаму і з жыцця вядома, што пазваніць з заштатнага нямецкага гарадка ў Канберу ці Лусаку, Вашынгтон або Мадрыд працей, чым у нас дранікі з'есці. Падняў трубку, набраў нумар і — калі ласка, Канбера на сувязі!

У нас усё крыху інакш. Дазвонішся па 07, пасварышся з тэлефаністкай, пасумуеш гадзіну-другую, а тады ўжо — калі пашанцуе — крычыш у Лондан, што табе трэба. Але крычыш праз Маскву, таму што праз Маскву ў нас раней усё рабілася. Таму не дзіва, што і тэлефонная станцыя таксама там.

А зараз Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь абяцае, што не пазней мая гэтага года ў Мінску будзе ўведзена першая чарга міжнароднай тэлефоннай станцыі на 200 каналаў. Гарады Лондан, Бон, Берлін, Варшава, Прага, Бялград, Рым, Жэнева, Мадрыд і амаль уся астатняя Еўропа будуць мець магчымасць павіншаваць нас са святам ці запрасіць у госці. І мы іх таксама. Міністэрства сувязі просіць не перажываць і тых, хто мае сваякоў у Амерыцы ці іншых краінах свету. Праз міжнародную станцыю ў Лондане можна будзе атрымаць аўтаматычны выхад і туды. Праўда, калі хвіліна размовы па тэлефоне з Валенсам вам абыдзецца ў 24, то з Бушам — у 48 рублёў.

**Міхаіл МІХАЕВІЧ.**

## НЕБЯСПЕЧНАЯ ЗОНА: СТРЭЛЬБІШЧЫ

**БРЭСТ. У ваенны шпіталь горада з цяжкім кулявым раненнем дастаўлены афіцэр. Ён паранены на стрэльбішчы.**

**Баявая падрыхтоўка ў войсках акругі, на жаль, не абыходзіцца без такіх вось надзвычайных здарэнняў. І часта яны заканчваюцца нават больш трагічна, пацвярджаючы суровую ісціну — нават незараджанае ружжо раз у год страляе.**

## СВАЯ ПРАДУКЦЫЯ— СВАЯ ЦАНА

ОРША (**Г. Мароз**). Як ні дзіўна, але прадукцыя мясцовай птушкафабрыкі вельмі марудна рэалізуецца ў дзяржаўных магазінах горада. Чаму? Дарагавата. Дзесятак яек каштуе 12 рублёў 40 капеек. А падаражанне ідзе за кошт 25-працэнтнай нацэнкі гархарчгандлем.

У выніку прадпрыемства затаварылася: за апошнія месяцы на яго складах сабралася каля двух мільёнаў яек, адпаведна няма прыбытку.

Дырэктар У. Чарняўскі звяртаецца ў гарвыканком, каб выдзелілі памяшканне для фірменнага магазіна, у якім птушкафабрыка змагла б прадаваць сваю прадукцыю і гараджанам, і вяскоўцам значна танней, чым у дзяржаўных магазінах. На жаль, там выслухалі, паабяцалі, але нічым не дапамаглі, нічога не зрабілі.

— Мы намячаем мець фірменныя магазіны і ў іншых гарадах. Напрыклад, у Магілёве, Віцебску, — гаворыць У. Чарняўскі.

А пакуль што на вуліцах горада ідзе бойкі гандаль яйкамі са спецыялізаваных аўтамашын. Дзесятак яек тут на 2—4 рублі дзешавей, чым у магазінах дзяржгандлю. Яно і зразумела, свая прадукцыя — свая цана.

## ЦІ ВЫКАЖА ДАВЕР «ДАВЕР»?

**Семдзесят два народныя дэпутаты Мінскага гарсавета паставілі свае подпісы пад патрабаваннем склікаць пазачарговую сесію гарадскога Савета, на якой абмяркаваць пытанне «Аб адпаведнасці кіраўніцтва гарсавета займаемым пасадам». Зварот падпісаны не толькі прадстаўнікамі дэмакратычнай фракцыі, але і прадстаўнікамі фракцый «Давер» і «Звязда».**

— Кіраўніцтва Савета, — сказаў, каменціруючы гэтае патрабаванне Міхаіл Пліско, дэпутат гарсавета і адзін з лідэраў Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, — не можа забяспечыць выкананне тых рашэнняў, якія прымаюцца на сесіях. Пытанні, што выносяцца на разгляд сесіі, слаба падрыхтаваныя і другарадныя. Старшыня гарвыканкома Аляксандр Герасіменка не можа дамагчыся ад службаў гарвыканкома выканання гэтых рашэнняў. Фактычна гарвыканком ігнаруе дэпутацкі корпус і часам робіць захады, якія належаць кампетэнцыі толькі сесіі гарсавета.

Згодна з рэгламентам, пазачарговая сесія павінна быць склікана не пазней чым праз 10 дзён.

Аднак малаверагодна, што на ёй будзе прынята рашэнне, якое задаволіць ініцыятараў гэтага склікання. Аляксандр Герасіменка і яго намеснік Анатоль Гурыновіч наўрад ці добраахвотна пададуць у адстаўку, а сесіі наўрад ці ўдасца большасцю галасоў выказацца за адхіленне іх ад займаемых пасад. Ва ўсякім разе, цяперашнія падзеі толькі лішні раз падкрэсліваюць, у якім зацяжным крызісе апынуўся Мінскі гарсавет.

**Алесь КНЯЗЮК, БелаПАН.**

## СТАЛІ ВУЗКІМІ ЗАХОДНІЯ ВАРОТЫ

БРЭСТ (**Ю. Фёдарава**). На дзяржаўнай граніцы над горадам «хмары ходзяць хмура».

Зрабіць выхадны на пагранпераходах катэгарычна запатрабаваў галоўны санітарны ўрач Брэста Васіль Ракаць. Трэба хоць на 2—3 дні заняцца дэзінфекцыяй тэрыторыі, суседняй з пагранпераходам «Варшаўскі мост». У сувязі з яе забруджваннем і надыходам цяпла ўзнікае эпідэміялагічная небяспека.

Гэта толькі адзін з трывожных сігналаў, што прагучалі на сумесным пасяджэнні прэзідыума і выканкома Брэсцкага гарсавета, на якім разглядалася становішча на граніцы.

Справа даходзіць да таго, што рэжуць агараджальную сетку і спрабуюць пралезці на тэрыторыю мытні, — заначалі кіраўнікі пагранатрада і мытні. Называліся прыкладныя сумы хабару для бесперашкоднага перасячэння граніцы — 50.000 рублёў.

Пагранічнікі Польшчы ў апошні час вярнулі назад каля 10 тысяч нашых турыстаў. Галоўная прычына — няправільнае афармленне запрашэнняў.

Як лічаць дэпутаты і кіраўнікі горада, урад Рэспублікі Беларусь пакінуў Брэст сам-насам з вострымі праблемамі граніцы. Трэба падкрэсліць і тое, што Закон аб абароне спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь зусім не дзейнічае на беларуска - польскай граніцы ў Брэсце.

Такім чынам, цяжкую і далёка не мясцовага значэння праблему абмяркоўвалі ўлады Брэста. І, як бачым, для яе вырашэння сродкаў і паўнамоцтваў у горада сапраўды не хапае.

## БУДУЦЬ ТАВАРЫ З ГЕРМАНІІ

**Германія прадаставіла дзяржаўныя гарантыі на фінансаванне здзелак з Беларуссю і Украінай.**

Беларусь стане першай з краін СНД, у якую ў бліжэйшы час будуць паступаць тавары з Германіі па дзяржаўных гарантыях. Як паведаміў прадстаўнік міністэрства эканомікі ФРГ, такое рашэнне было прынята камітэтам па экспартных гарантыях пры бонскім кабінеце. Аналагічныя меры будуць пашыраны на пастаўкі медыкаментаў на Украіну.

Разам з тым дзяржаўныя гарантыі на экспарт у Расію па-ранейшаму не прадастаўляюцца.

## Загінуў... За што?

23 лютага 1992 года на Чыжоўскіх могілках у Мінску адбыўся мітынг бацькоў, чые дзеці загінулі ў Афганістане. Адбылося апытанне ўсіх прысутных на прадмет, якімі былі труны з іх загінуўшымі дзецьмі. Каля шасцідзесяці працэнтаў апытаных адказалі, што труны былі з акенцамі. Дакладна вядома: такіх трунаў у Афганістане ніколі не было. Ці ў Саюзе целы загінуўшых хлопцаў перакладвалі ў новыя труны, ці...

Не вельмі хочацца развіваць гэту тэму — гэта «ці». Але попел вечнага болю стукае ў сэрцы падманутых бацькоў. І ў рэшце рэшт гэта жаданне такое зразумелае — ведаць праўду, як загінула ўласнае дзіця.

Усе афіцыяльныя інстанцыі, куды звяртаюцца бацькі, каб даведацца пра смерць сына, спасылаюцца на даўнасць часу, на афіцыяльных асоб, на іншыя інстанцыі. Замкнутае кола праваць удаецца далёка не кожнаму. Рэдка хто атрымлівае дакладны адказ.

Таму ці можна абвінавачваць бацькоў у занадта вялікай экспрэсіўнасці іх патрабаванняў? Смерць — святая рэч, і хоць бы яе трэба паважаць. Немагчыма вечна падманваць бацькоў. Іх, такіх няшчасных найбольш ад хлусні і падману, чым нават ад смерці дзіцяці, набярэцца не адзін дзесятак. Мы прапануем адну гісторыю самага сапраўднага здзеку над чалавечай смерцю.

Муж і жонка Арціховічы, настаўнікі са Слуцка, упэўнены, што праўды аб іх сыне, лейтэнанце Мікалаю, яны так і не дабіліся.

Мікалай па афіцыяльнай версіі Ташкенцкай ваеннай пракуратуры скончыў жыццё самагубствам пасля выхаду з Афганістана. Усё, што атрымалі Арціховічы пасля смерці сына — афіцэра, які паўгода быў у Афгане, — 23 інвалютныя рублі, незразумелыя лахманы, і цела сына на трэці дзень пасля яго гібелі.

На трэці дзень з'явіліся і адпаведныя дакументы. Следчы, які вёў справу М. Арціховіча, афіцыяльна заявіў, што ў апошняга была ашчадная кніжка на 600 рублёў.

Ашчадкніжкі бацькі не атрымалі.

Смерць Мікалая наступіла 13 лютага 1989 года. Праз год і два месяцы пасля смерці ташкенцкая амбулаторная комплексная судова-псіхіятрычна-псіхалагічная экспертыза дае заключэнне, што «на момант самагубства (Мікалай. — **Аўт.**) пакутаваў псіхічным захворваннем у форме рэактыўнага дэпрэсіўнага псіхозу з параноідным (непрытомным) сіндромам».

Быў, маўляў, псіхам і павесіўся ад уласнай псіхічнай неўраўнаважанасці.

Практычна перад самай смерцю на Мікалая Арціховіча была напісана службовая характарыстыка, у якой значылася: «Займаемай пасадзе адпавядае. Праявіў сябе са станоўчага боку».

У Афганістане служыў нармальна, у баявых умовах, а выйшаў з вайны — захацелася павесіцца.

Праўда, 7 сакавіка (пасля смерці) 1989 года камандзір палка дае ўжо зусім іншую карціну службы М. Арціховіча ў падраздзяленні: «Баяўся недастачы, не спраўляўся з работай».

Але гэта няхай будзе на сумленні камандзіра. Ёсць афіцыяльны адказ на запытанне бацькоў Мікалая аб тым, што ніводнай рэчы не значылася ў недастачы пасля звальнення яго з палка. І яшчэ: старшы лейтэнант М. Арціховіч нават не быў матэрыяльна адказнай асобай.

Але гэта яшчэ кветачкі. Ягадкі ў тым, што бацькам падсунулі здымак не іх сына і «ліпавае» судмедэкспертызнае заключэнне.

Труп сына быў у баваўнянай цяльняшцы з доўгімі рукавамі ў светла-блакітныя і белыя палосы. На здымку ж незнаёмы памёршы хлопец у майцы-безрукаўцы. У Мікалая рост 179 см, а ў заключэнні — 184 см, ну і гэтак далей.

Самае страшнае нават не тое, што ў Мінску слова ў слова перапісана ташкенцкае заключэнне, а што ўжо ў больш позніх сваіх прызнаннях па гэтай справе мінскі судмедэксперт Мядзведзеў пераконвае: «Ніякіх слядоў гвалтоўнай смерці на целе не выяўлена», хоць у гэтым жа дакуменце гаворыцца, што «ў вобласці патылічнага бугра маецца ўчастак кровазліцця ў скуры сінюшнага колеру і ўчастак шэра-карычневага колеру».

У падручніку паталагаанатоміі напісана, што такія «знакі» ўтвараюцца пасля ўдараў ззаду.

Цяпер, безумоўна, вельмі цяжка ўстанавіць сапраўдныя матывы смерці Мікалая. Але тое, што ў бацькоў узнікае шмат законных пытанняў, на якія не дае адказаў афіцыяльнае заключэнне, — відавочна.

Натуральна, дрэнна рабіць паспешныя вывады і абагульненні, але і не рабіць ніякіх — здаецца, яшчэ горш.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

## БЕЗ ВІЗРВ БЕЛАРУСКАМУ ВОЙСКУ НЕ АБЫСЦІСЯ

**У пастанове Вярхоўнага Савета рэспублікі ад 18 сакавіка 1992 года «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь» Савету Міністраў даручана з 20 сакавіка гэтага года пачаць фарміраванне нацыянальнай арміі, якая можа атрымаць назву Беларускага Войска.**

Зусім лагічна, што ўзброеныя сілы рэспублікі будуць складвацца з сухапутных войск, ваенна - паветраных сіл, войск проціпаветранай абароны, спецыяльных войск, ваенных навучальных устаноў...

Падрыхтоўку малодшага афіцэрскага саставу для рэспублікі ў асноўным мяркуецца ажыццявіць на базе двух дыслацыруемых у Беларусі вышэйшых ваенных вучылішчаў. Камандны састаў для сухапутных войск, а таксама афіцэрскія кадры для работы з асабовым саставам — ваенных псіхолагаў і педагогаў, сацыёлагаў і юрыстаў — мяркуецца рыхтаваць на базе мадэрнізаванага Мінскага вышэйшага ваеннага агульнавайсковага педагагічнага вучылішча. Задача ж падрыхтоўкі ваенных інжынераў для войск проціпаветранай абароны, у прыватнасці, а таксама для іншых відаў і родаў Беларускага Войска будзе рэалізоўвацца ў сценах вядомага не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі Мінскага вышэйшага інжынернага зенітнага ракетнага вучылішча проціпаветранай абароны, якое ў ходзе рэарганізацыі можа быць пераўтворана ў вышэйшае інжынернае вучылішча або ваенна - інжынерную акадэмію Рэспублікі Беларусь.

За амаль 40-гадовы перыяд у МВІЗРВ было падрыхтавана каля 13 тысяч ваенных інжынераў, 316 з ліку якіх былі ўдастоены залатога медаля «За выдатнае заканчэнне ваеннага ВНУ», у навукова - педагагічных падраздзяленнях атрымалі пуцёўку ў навуку звыш 400 кандыдатаў навук, 25 выпускнікоў вучылішча ўдастоены высокага звання доктара навук, 18 нашых выхаванцаў сталі лаўрэатамі Дзяржаўных прэмій.

Цяперашняму пакаленню курсантаў створаны ўсе неабходныя ўмовы для вучобы ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі па падрыхтоўцы афіцэрскага саставу. Перш за ўсё гэта добрая навукова - матэрыяльная база, абсталяваныя сродкамі тэхнічнага навучання аўдыторыі і класы, лабараторыі і кабінеты, аснашчаныя навейшымі радыётэхнічнымі і радыёэлектроннымі прыстасаваннямі, прыборамі аўтаматыкі і вылічальнай тэхнікі.

Многія юнакі, якія з дзяцінства марылі стаць прафесіянальнымі ваеннымі афіцэрамі ўзброеных сіл, цяпер на раздарожжы, перад імі стаіць пытанне: куды пайсці вучыцца, у якое ваеннае вучылішча падаць заяву? Іх можна зразумець, пераважная ж большасць з іх хацелі б служыць афіцэрам у родных краях, абараняць сваю Айчыну.

У сувязі з гэтым зусім лагічныя планы мадэрнізацыі МВІЗРВ ППА ва ўстанову па падрыхтоўцы ваенных інжынераў не толькі для проціпаветранай абароны, а таксама для іншых відаў і родаў войск, у першую чаргу для Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

11 красавіка з 11.00 у вучылішчы будзе праводзіцца «дзень адкрытых дзвярэй». Праезд да нас ад станцыі метро «Усход» аўтобусамі №№ 269, 15 да прыпынку «9 км Маскоўскай шашы», даведкі па тэлефоне 69-42-36.

Запрашаем будучых абітурыентаў, усіх зацікаўленых асоб, прадстаўнікоў прэсы (будзе арганізавана прэс - канферэнцыя) азнаёміцца з навукова - матэрыяльнай базай вучылішча, сустрэцца з курсантамі і прафесарска - выкладчыцкім саставам, увачавідкі пераканацца, чаго дасягнуў наш калектыў, якому ўжо ў бліжэйшым будучым трэба будзе вырашаць яшчэ больш адказныя задачы па падрыхтоўцы афіцэрскіх кадраў.

**Аляксандр КУЛЕШ, кандыдат гістарычных навук, падпалкоўнік.**

## ПІНСК—ГОРАД ОПЕРНЫ

**Пяты год запар пінчане запрашаюцца на оперныя прэм'еры. Спектаклі ставяць дзве оперныя дзіцячыя студыі — пры гарадской музычнай школе і сярэдняй школе № 5. Сёлета сваю новую работу — оперу-казку Л. Лагіна «Стары Хатабыч» паказалі артысты з пятай школы. Вясёлы музычны спектакль паставілі Марына Войтава і Аляксандр Лукашэнка. Дэкарацыі і касцюмы зроблены рукамі дзяцей і іх бацькоў.**

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### АБ РОЗНІЧНЫХ ЦЭНАХ НА АСОБНЫЯ ПРАДУКТОВЫЯ ТАВАРЫ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Захаваць да асобнага рашэння ўрада Рэспублікі Беларусь устаноўленыя дзяржаўныя розничныя цэны на хлеб, хлебабулачныя вырабы, малако, малакапрадукты, мяса і мясапрадукты, а таксама гандлёвыя скідкі з цэн на прадуктовыя тавары, што рэалізуюцца насельніцтву па дзяржаўных фіксаваных цэнах.

Міністэрству фінансаў, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому забяспечыць датацыю на ўказаныя прадуктовыя тавары.

2. Дзяржэканомплану прадоўжыць тэрмін дзеяння прэйскурантаў дзяржаўных розничных цэн на хлеб, хлебабулачныя вырабы, малако, малакапрадукты, мяса і мясапрадукты.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

## СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ АБАРОНЫ ЗША І БЕЛАРУСІ

Напярэдадні першага пасяджэння міністраў абароны краін — членаў НАТО і дзяржаў Усходняй Еўропы і былога Саюза ССР у Брусэлі адбылася сустрэча выконваючага абавязкі міністра абароны Рэспублікі Беларусь П. Чауса і міністра абароны ЗША Р. Чэйні.

Міністра абароны ЗША асабліва цікавіла палітыка Беларусі адносна абавязацельстваў былога СССР па міжнародных дагаворах у галіне бяспекі, у прыватнасці па Дагавору аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў і Дагавору аб звычайных узброеных сілах у Еўропе.

П. Чаус падкрэсліў, што Рэспубліка Беларусь нязменная ў сваёй палітыцы дасягнення бяз'ядзернага статуса. Зыходзячы з гэтага, кіраўніцтва Беларусі і вызначае свае адносіны да ядзернай зброі, якая знаходзіцца на яе тэрыторыі. Да 1 ліпеня 1992 года ў межах беларускіх граніц не застанецца тактычнай ядзернай зброі. У адносінах да стратэгічнай ядзернай зброі таксама была пацверджана ранейшая пазіцыя.

Р. Чэйні праінфармаваў беларускі бок аб скарачэнні ядзернай зброі ў ЗША, адзначыўшы, што, нягледзячы на паскарэнне тэмпаў такога скарачэння, гэты працэс даволі працяглы.

Значная частка гутаркі вышэйшых ваенных кіраўнікоў дзвюх дзяржаў была прысвечана праблемам ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

У заключэнне субяседнікі выказалі надзею на развіццё сувязей Беларусі і ЗША ва ўсіх галінах, уключаючы ваенную.

## ДА ВЕДАМА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Дзевятая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 7 красавіка 1992 года ў 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.**

# ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

## Ёсць ў доме халадзільнік

Каб забяспечыць нармальную работу халадзільніка, трэба рэгулярна (раз у двa-тры тыдні) размарожваць і мыць яго. Ручку тэрмометра пастаўце на нулявую пазіцыю. Дастаньце штэпсель з разеткі. Выдаліце з халадзільніка ўсе прадукты.

Калі халадзільнік у час не размарожваць, то тоўсты слой снегу, што збіраецца на маразільнай камеры, замаруджвае працэс замарожвання, парушае тэмпературны рэжым. Халадзільнік пачынае дрэнна працаваць.

Размарожваючы халадзільнік, пастаўце пад маразільную камеру спецыяльную ваннaчку, куды будзе сцякаць вада.

Нельга саскрабаць снег са сценак маразільнай камеры нажом і іншымі вострымі прадметамі.

Калі снег поўнасцю растане, дастаньце ваннaчку, вытрыце маразільную камеру насуха льняным ручніком.

Алюмініевыя часткі халадзільніка мыюць толькі цёплай вадой, затым выціраюць.

209

## НАВОДЗІМ ЧЫСЦІНЮ

## Каб посуд быў чысты

Мыць і чысціць кухонны посуд і іншыя кухонныя рэчы даводзіцца штодзённа і па некалькі разоў на дзень. Работа гэтая не вельмі лёгкая, але зусім неабходная. Для таго каб аблегчыць яе, у першую чаргу неабходна рацыянальна размясціць кухоннае абсталяванне. Вельмі зручна, калі над мыйкай падвешана шафа-сушылка (або металічная сушылка). Справа (або злева) ад мыйкі можна размясціць невялікую паліцу са спецыяльнымі мыйнымі сродкамі, шчоткамі і мачалкамі.

Многія гаспадыні пераважна мыюць посуд старой капронавай панчохай (старанна вымытай). У панчоху можна пакласці невялікі кавалачак мыла «Дэльфін», «Гаспадыня» або «Баннае». Такой мачалкай зручна мыць не толькі посуд, але і ракавіну, і газавую пліту, і панэлі (абліцаваныя пліткай або пафарбаваныя).

Побач з сушылкай павінны вісець тры ручнікі: для посуду, для відэльцаў, лыжак, нажоў і абавязкова для рук.

Пад мыйкай можна паставіць вядро для харчовых адкідаў (зручней за ўсё з педаллю).

Час ад часу, прыкладна раз у месяц, рэкамендуецца наладжваць «лазню» каструлям, патэльням, казанам і г. д. Гэта нескладаная, але вельмі эфектыўная працэдура. Бак, тазік, вядро або вялікую каструлю запаўняюць напалавіну вадой і ставяць на агонь. У ваду дадаюць папярэдне буйна нацёртае мыла, кальцыніраваную соду, сілікатны клей і «Персоль». На вядро вады расходуецца прыкладна кавалак гаспадарчага мыла, 500 г сілікатнага клею і пакет «Персолі». Ні ў якім разе не дабаўляць мыйны парашок. Калі ўсё растворыцца, у гэтую сумесь апускаюць спачатку эмаліраваныя каструлі, накрыўкі, міскі, конаўкі, а затым — казаны, патэльні і іншае, апрача алюмініевай пасуды, якая «баіцца» соды. Кіпяцяць 10—15 мінут, дастаюць асцярожна (каб не абварыцца) па аднаму прадмету і старанна прамываюць спачатку цёплай, затым халоднай вадой.

Не збірайце брудны посуд, мыйце яго адразу ж пасля выкарыстання. Ужо праз 2—3 гадзіны рэшткі ежы высыхаюць, а посуд даводзіцца чысціць і скрабці, на што патрэбна значна больш працы і часу.

З-за гэтага яна хутчэй зношваецца, страчвае прывабнасць. Ад чысціні посуду і кухонных рэчаў залежыць не толькі іх знешні выгляд, але і здароўе ўсіх членаў сям'і. Брудны посуд — крыніца інфекцыі.

210

Рэшткі ежы з талерак зграбіце лыжкай у таз, засланы паперай. Паперу згарніце і выкіньце з рэшткамі ў вядро для смецця.

Брудныя, тлустыя талеркі не кладзіце адна на адну, так яны забруджваюцца яшчэ больш. Мыйце іх па адной пад струменем гарачай вады шчоткай, кавалкам палатна або капрону, прымяняючы спецыяльны сродак. Пасля гэтага памыйце цёплай, а затым халоднай вадой.

## Газавая пліта і калонка

Асноўнае правіла: не дапускайце да газавай пліты дзяцей і асоб, якія не ўмеюць ёю карыстацца.

Дзяцей старэйшага ўзросту неабходна падрабязна праінструктаваць перш чым дазволіць ім карыстацца газавай плітой.

Некаторыя гаспадыні, жадаючы скараціць час прыгатавання яды, ставяць каструлю на моцны агонь. У гэтым выпадку адбываецца няпоўнае згаранне газу, што прыводзіць да атручэння паветра шкоднымі рэчывамі. Няпоўнае згаранне газу можа таксама стаць прычынай пажару або выбуху.

Калі агонь вельмі моцны, ежа «выбягае» з каструлі, закупорваючы гарэлкі. Яны пачынаюць дыміць, забруджваючы посуд, атручваючы паветра. Таму адразу ж, як толькі ў вас нешта «выбегла», пратрыце гарэлку сухой анучкай або шчоткай.

Нельга ставіць посуд з шырокім дном на гарэлку без спецыяльнай рашоткі або рассякацеля агню: гэта прывядзе да няпоўнага згарання газу.

Калі агонь вельмі слабы, гарэлкі аплаўляюцца і выходзяць са строю.

У час прыгатавання ежы полымя павінна быць вышэй гарэлак. Трэба абавязкова

211

праветрываць кухню, трымаючы адчыненымі акно або фортку. І пасля выключэння газу трэба добра праветрыць кухню, а лепш — усю кватэру. Перш чым карыстацца духоўкай, праветрыце яе хвілін 5—7.

## Ці ўмееце вы прасаваць?

Прасаваць трэба толькі зусім чыстыя рэчы, таму што пасля прасавання любая пляма становіцца больш яркай.

Не перасушвайце бялізну: вільготныя рэчы лягчэй прасуюцца. Калі бялізна перасохла, папырскайце яе вадой або пратрыце кавалкам чыстага льнянога ручніка, змочанага цёплай вадой і адціснутага (такім чынам бялізна ўвільгатняецца раўнамерна: цёплую ваду яна ўсмоктвае хутчэй, чым халодную).

Чым больш тонкая тканіна, тым таўсцейшай павінна быць падсцілка для прасавання.

Для прасавання сінтэтычнай тканіны ўстанавіце ўказальнік тэрмарэгулятара супраць адзнакі «шоўк».

Баваўняную і льняную бялізну прасуюць з правага боку гарачым прасам. Вышытую бялізну прасуюць з левага боку, каб узор быў больш рэльефны.

Падкоўдранік, прасціны, абрусы лягчэй прасаваць, калі скласці іх па шырыні ўдвая і прасаваць спачатку вонкавы бок, затым — унутраны.

Каб на вонкавым баку сукенкі не выдзяляліся лініі швоў, сукенку трэба прасаваць на спецыяльнай дошцы, захоўваючы наступны парадак: спачатку — швы, ніз, затым — вытачкі і толькі пасля гэтага — усю сукенку. Адпрасаваўшы, вывернiце рэч на вонкавы бок і яшчэ раз папрасуйце пакамечаныя месцы.

Шарсцяныя сукенкі з рэльефным малюнкам прасуюць на мяккай коўдры праз вільготную анучку, злёгку націскаючы прасам.

Калі неабходна прапрасаваць шарсцяную сукенку з вонкавага боку, вільготная анучка, праз якую вы збіраецеся прасаваць, таксама павінна быць шарсцяной.

Раскляшоную спадніцу прасуйце па падоўжнай ніці.

212

# «БЕЛНІКА» ЛЕЧЫЦЬ БЕЗ МЕДЫКАМЕНТАЎ

**Група беларускіх урачоў асвоіла і паспяхова выкарыстоўвае новы арыгінальны метад дыягностыкі захворванняў і безмедыкаментознага лячэння.**

Спачатку вытрымка з пісьма

**«Я пенсіянер, але працую. У мяне хворае сэрца, пастаянна быў павышаны крывяны ціск. Але больш за ўсё пакутаваў з-за хваробы ног. Шмат дзе лячыўся, нават на Урал ездзіў. Дарэмна. І вось мне знаёмыя параілі звярнуцца ў СП «Свенас». І ведаеце што? Папіў я іх ваду і вылечыўся. Перастаў прымаць лекі ад усіх сваіх хвароб. Хаджу нармальна, працую.**

**РУДЗІК Віктар Фёдаравіч. г. Мінск».**

Такіх пісьмаў шмат. Можна б было яшчэ працытаваць не адзін дзесятак лістоў удзячных пацыентаў, якім дапамаглі медыкі «Белнікі». Але мы лепш больш падрабязна раскажам пра саму «Белніку».

Спачатку пра метад лячэння, «жывую ваду», дзякуючы якой адступаюць розныя хваробы. Яе правільная і поўная назва — біялагічна актыўная вадкасць. Вядома, яна стала такой у выніку эксперыментальнай дзейнасці заходнегерманскага доктара Р. Фолля. За гэта вынаходства, па словах аднаго са стваральнікаў «Белнікі» В. Нікалаева, папа рымскі ўзнагародзіў Р. Фолля залатым медалём.

Гэты метад даволі хутка атрымаў распаўсюджанне ў свеце, пераважна ў заходніх краінах. Дайшоў ён і да нас, але ў выніку намаганняў пэўнай групы «свяцілаў» Міністэрства аховы здароўя СССР быў забаронены, прызнаны неперспектыўным для простых смертных. Што датычыць эліты, то біялагічна актыўнай вадкасцю лячылі наведвальнікаў так званай «Крамлёўкі» — спецыяльнай бальніцы, дзе лячылася выбранае кола людзей дзяржавы рабочых і сялян. Іх у нас чамусьці яшчэ называлі «белымі» людзьмі.

У 1989 годзе пад націскам перабудовы метад «адкрылі». У Сімферопалі пад кіраўніцтвам доктара Сарчука ўрачы-энтузіясты арганізавалі сумеснае савецка-аўстрыйска-амерыканскае прадпрыемства «Свенас» і пачалі лячыць людзей гэтай вадкасцю. Чуткі пра яе гаючыя ўласцівасці неўзабаве дасягнулі беларускай зямлі. Нехта з нашых землякоў лячыўся ў Сімферопалі, і не без поспеху, аб чым стала вядома сваякам, суседзям, знаёмым.

Па гэтым ланцужку дайшла навіна да мінскага ўрача В. Нікалаева. Ён тады працаваў тэрапеўтам у гарадской паліклініцы. Пачынаў санітарам рэанімацыі, потым скончыў медыцынскі інстытут, паспытаў хлеба ўчастковага ўрача. На гэтай пасадзе добра знутры пазнаў нашу «бясплатную» сістэму аховы здароўя, якая ў асноўным накіравана на вал, ахоп, а не на лячэнне канкрэтнага хворага ад канкрэтнай хваробы.

Таму Нікалаеў і яшчэ некалькі медыкаў вельмі зацікавіліся працай доктара Сарчука ў Сімферопалі. Разам напісалі туды пісьмо, атрымалі запрашэнне, вытрымалі конкурс, прайшлі курс навучання і 17 сакавіка 1990 года адкрылі ўласную практыку ў Мінску. Дакладней, аддзяленне «Свенаса». На самастойнае прадпрыемства не хапала вопыту, абсталявання, прэпаратаў, памяшкання, сродкаў.

Аднак справы ў Нікалаева і яго калег пайшлі, бо да іх пачалі звяртацца людзі. За два гады яны абслужылі больш за сем тысяч пацыентаў. Філіял мінскага аддзялення адкрыўся ў Брэсце, хутка біялагічна актыўнай вадкасцю пачнуць лячыць у Віцебску, Оршы, Магілёве, Слоніме. Але яны ўжо будуць працаваць як прадстаўніцтвы «Белнікі». Так цяпер называецца рэарганізаванае ў студзені гэтага года ў Беларускае навукова-даследчае таварыства мінскае аддзяленне «Свенаса».

— Мы мяркуем у будучым па ўсёй рэспубліцы адкрыць сетку філіялаў «Белнікі». У тэхнічным плане для гэтага асаблівых перашкод няма. Самае цяжкае для нас — падрыхтаваць адпаведную колькасць высокакваліфікаваных спецыялістаў-медыкаў. А ў перспектыве мы зможам нават выязджаць у вёскі, бо наша дыягнастычная апаратура кампактная і дазваляе працаваць у звычайных памяшканнях,— гаворыць Віктар Вячаслававіч.

Але не падумайце, што Нікалаеў і яго аднадумцы, партнёры па «Белніцы», у пагоні за «доўгім» рублём гатовы, груба кажучы, заліць сваёй вадкасцю ўсю Беларусь. «Белніка» не гоніцца, як у свой час гналіся за грашамі першыя медыцынскія кааператывы, але і ад заробкаў не адмаўляецца. Яны ў параўнанні са шматтысячнымі ганарарамі розных экстрасенсаў, магаў і чараўнікоў невялікія. Каб сарваць вялікі куш, трэба праводзіць масавыя сеансы, а ўрачы «Белнікі» лечаць індывідуальна. Кожны за змену прымае 6-7 пацыентаў, якія плацяць за дыягностыку і лячэнне па сённяшніх мерках не такія ўжо вялікія грошы — 400 рублёў.

Дык што лечыць «Белніка»? Многія і розныя хваробы, нават цяжкія, як, напрыклад, захворванні крыві. Адну дзяўчыну год назад бацькі ўнеслі ў іх кабінет на руках. Праз пяць сеансаў яе стан значна палепшыўся. Яна ўжо адчувае сябе больш-менш добра. Другая дзяўчынка з аналагічным захворваннем настолькі лепш стала сябе адчуваць, што ўрачы мінскай бальніцы не паверылі, зрабілі аналіз. Ён пацвердзіў факт вылячэння. Урачы вынікі аналізу палічылі памылковымі і зрабілі яго паўторна. І пераканаліся — хвароба сапраўды адступіла.

А яшчэ быў выпадак... Не! Досыць. Як не працытаваць усе пісьмы, так і не пераказаць усе цікавыя выпадкі з медыцынскай практыкі «Белнікі». Дададзім, што яна лечыць хваробы нырак, печані, страўніка і дванаццаціперснай кішкі, рэўматоідных артрытаў, піеланефрытаў, інфекцыйных гепатытаў. Медыкі таксама дапамогуць вывесці з арганізма шкодныя таксічныя рэчывы (па народнаму — шлакі), радыенукліды, вызначаць, які ўплыў — станоўчы ці адмоўны аказваюць на вас упрыгажэнні з золата, серабра, плаціны, іх сплаваў, іншых металаў, тая ці іншая касметыка, вопратка з сінтэтыкі.

Замест медыкаментаў пацыент прымае, як мы ўжо казалі, біялагічна актыўную вадкасць. Гэта звычайная вада — дыстыляваная ці кіпячоная, якая пазбаўлена ранейшай памяці. На яе па спецыяльнай тэхналогіі, як на магнітную стужку, запісваюць спектральна-хвалевую інфармацыю аб хваробе пацыента. Ён прымае гэтую індывідуальна заряджаную вадкасць па 30 мл. раз у тры дні. Курс лячэння — 10 прыёмаў. Асабліва добра падаюцца лячэнню дзеці, арганізм якіх пакуль не перагружаны шлакамі, дрэнным уплывам былых хвароб і асяроддзя.

На развітанне доктар Нікалаеў даў каштоўную параду: «Пазбягайце піць ваду з-пад крана, ужывайце яе толькі кіпячонай. Бо на шляху ў вашу кватэру вада нясе з сабой памяць аб сутыкненнях з усімі шкоднымі рэчывамі, якія небяспечныя для чалавека».

Тым, каго зацікавіў гэты метад лячэння, просім рэдакцыю не турбаваць, **а званіць у «Белніку» па мінскім тэлефоне: 58-88-14.**

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**



**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае лячэбна-дыягнастычная касета; вялікія магчымасці мае гэты энергаінфармацыйны прэпарат «Векрома»; дослед праводзіць доктар В. НІКАЛАЕЎ; медсястра Л. ГЛАДКАЯ.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



## МАЛДОВА: ПОГЛЯД З КІШЫНЁВА

Як мы ўжо ведаем, канфлікт у Малдове ўступіў у новую небяспечную фазу. Увядзенне надзвычайнага становішча яшчэ больш абвастрыла адносіны паміж абодвума бакамі.

Напярэдадні ўрад Малдовы распаўсюдзіў зварот да жыхароў левабярэжных прыднястроўскіх раёнаў. У ім адзначаецца, што ў апошнія дні пачаліся небывалыя дагэтуль па сваіх маштабах атакі на законныя структуры ўлады, тэрор у адносінах да цывільнага насельніцтва, бандыцкія дыверсіі. 14 сакавіка былі ўзарваны масты праз Днестр. Расце колькасць ахвяр.

Таму ўрад звярнуўся да насельніцтва левабярэжных раёнаў з заклікам падтрымаць законныя структуры ўлады, прымусіць бандыцкія фарміраванні скласці зброю, а наёмнікаў — пакінуць межы рэспублікі.

А вось некаторыя вытрымкі з матэрыялаў прэс-бюро МУС Малдовы аб падзеях 14 і 15 сакавіка.

14 сакавіка ў 01.00 баевікі ў сяле Камніца атакавалі аўтамашыну Дубасарскага райаддзела паліцыі. У выніку абстрэлу вадзіцель паліцэйскай машыны быў забіты, некалькі паліцэйскіх паранены.

15 сакавіка ў 0.30 каля сяла Камніцы адбыўся сапраўдны бой паміж гвардзейцамі і паліцэйскімі. Гвардзейцы выкарыстоўвалі супрацьградавыя ракеты, мінамёты і гранаты.

14 сакавіка вечарам 600 чалавек, сярод якіх было шмат узброеных гвардзейцаў і казакоў-наёмнікаў, пад кіраўніцтвам вядомай Галіны Андрэевай, лідэра стачачнага камітэта жанчын Цірaспаля, атакавалі воінскую часць 14-й арміі СНД. Пасля масіраванага псіхалагічнага націску, пагроз з дапамогай цяжкіх грузавікоў пратаранілі ахоўную агароджу і авалодалі вялікай колькасцю зброі і боепрыпасаў. Сярод захопленага: 1.321 аўтамат Калашнікава і паўтара мільёна патронаў да іх, 255 пісталетаў Макарава і ТТ, 1.300 гранат Ф-1 і РГД-5, 15 гранатамётаў РПГ-7 з боекамплектам, 30 пераносных зенітна-ракетных комплексаў «Зямля — паветра». Уся гэтая зброя была вывезена ў невядомым напрамку.

У той жа дзень гвардзейцы і казакі, якія кантралююць стратэгічна важную аўтамагістраль Цірaспаль — Рыбніцы, на скрыжаванні дарог ля сяла Рогі адкрылі агонь па групе паліцэйскіх з 15 чалавек.

Атакуючыя загадзя падрыхтаваліся: выкапалі траншэі, зрабілі доты і г. д.

У момант бою з Рыбніцы падышоў рэйсавы аўтобус, які быў абстраляны кулямётнымі чэргамі адной з бронемашын гвардзейцаў. Напужаныя пасажыры з белымі хусцінкамі ў руках разбегліся хто куды, пакідаўшы чамаданы, сумкі, асабістыя рэчы. У аўтобусе з турэцкімі нумарнымі знакамі — АНН — знайшлі мёртвую дзяўчыну, прыкладна 20-гадовага ўзросту. Цяжка параненую жанчыну даставілі ў бальніцу.

Гэта падзеі ўсяго двух сутак з вельмі, на жаль, сумнай храналогіі падзей у Малдове сутычак з прымяненнем зброі.

На думку пракурора Рэспублікі Малдовы Думітру Паставана, гвардзейцы ідуць на злачынствы па надуманых матывах, часцей за ўсё — наогул без прычын. У рады «гвардыі» залічаны ўсе жадаючыя, сярод якіх шмат антысацыяльных элементаў, раней судзімых. Нападаюць яны на ўсіх без усялякага разбору, на вачах забіваюць невінаватых людзей, у тым ліку і з суседняй незалежнай Украіны. За свае дзеянні гвардзейцы ніякай адказнасці не нясуць, яны выйшлі з-пад усялякага кантролю і нікому не падпарадкоўваюцца. Пагражаюць усім, нават рэгулярнай арміі. Гагаузскія баевікі рабуюць прыезджых пад выглядам абароны рынку.

Усё гэта дазваляе меркаваць, сцвярджае пракурор, што гэтыя ўзброеныя атрады маюць прыкметы сталай злачыннай арганізацыі.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## ПРЫДНЯСТРОЎЕ: ПОГЛЯД З ЛЕВАБЯРЭЖЖА

**Паслухаем дэпутатаў Вярхоўнага Савета Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі, якія нядаўна наведалі Мінск.**

**Мікалай АСТАПЕНКА, старшыня Слабадзейскага райвыканкома:** Да самастойнасці мы прыйшлі дэмакратычным шляхам — у ходзе трох рэферэндумаў. 90 працэнтаў прыднястроўцаў без ваганняў прагаласавалі за незалежнасць. І не верце, калі чуеце, што гэта, маўляў, «рускія там каламуцяць ваду», таму што яны складаюць толькі 26 працэнтаў насельніцтва. Для параўнання: 39 працэнтаў — малдаване і 29 — украінцы.

Прыднястроўская Рэспубліка зараз цалкам самастойная ў прамым сэнсе: існуюць неабходныя структуры кіравання, сфарміраваны свой бюджэт, гвардзейскі батальён.

З суседняй Малдовай, як і з іншымі рэспублікамі былога СССР, нас звязваюць толькі эканамічныя і культурныя сувязі.

Само па сабе тут напрошваецца пытанне: ці зможам мы існаваць самастойна? Эканамічны патэнцыял рэспублікі дае на гэты конт станоўчы адказ. Калі браць разам Малдову і Прыднястроўе, то ў нас выпрабляецца 40 працэнтаў прамысловай і 35 працэнтаў сельскагаспадарчай прадукцыі.

Але зусім не ў гэтым прычына, каб аддзяліцца і жыць лепей. Справа ў тым, што ў кіруючых колах Малдовы ўсё мацнее тэндэнцыя да аб'яднання з Румыніяй. Татальная румынізацыя ахапіла сферы адукацыі, культуры, кіравання... Колькі добрых арганізатараў мусілі развітацца са сваімі пасадамі толькі таму, што не паспелі дасягнуць вышынь у авалоданні малдаўскай мовай!

Народны фронт Малдовы ўжо не ўтойвае, што аб'яднанне з Румыніяй — справа толькі часу, і яго лідэр Мірча Друк хоць і пазбавіўся крэсла прэм'ер-міністра, але толькі ўзмацніў свае намаганні ў гэтым накірунку.

Дык што нам заставалася рабіць? Вось і прагаласавала большасць насельніцтва Прыднястроўя за сваю дзяржаўнасць, каб застацца разам з рэспублікамі былога СССР.

**Уладзімір ЯРОНКА, намеснік старшыні гарвыканкома г. Рыбніцы:** Калі пачытаць малдаўскую прэсу, дык мы — правакатары, падпальшчыкі міжнацыянальнай варожасці. У якіх толькі смяротных грахах не абвінавачваецца гвардзейскі батальён «Днестр»! Але ж мы яго мусілі стварыць менавіта для самаабароны.

І ў час вядомага канфлікту ў Дубасарах гвардзейцы таксама толькі адказалі на напад. Тыя нашы хлопцы, што зараз апынуліся за кішынёўскімі кратамі і якім пагражае пакаранне па дзікаму артыкулу «здрада Радзіме», на самай справе толькі абаранілі ад куль і здзекаў сваіх маці, жонак і дзяцей.

Паверце, мы ўсёй душой за тое, каб вырашаць супярэчнасці цывілізавана, шляхам перамоў.

**Мікалай ШАСТАКОЎ, дэпутат Вярхоўнага Савета Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі:** Мы прыязджаем у Мінск ужо трэці раз. І кожны раз вяртаемся ў добрым настроі, бо адчуваем: мы не застаёмся сам-насам са сваімі праблемамі.

А цяпер мы наладжваем усё мацнейшыя сувязі ў эканоміцы, іншых сферах. Імпануе ваша памяркоўнасць, надзейнасць, добразычлівасць. Трохі зайздросцім таму, як тактоўна, спакойна, разумна вырашаюцца ў рэспубліцы, дзе таксама жыве нямала і рускіх, і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, пытанні міжэтнічных адносін.

**Н. С. (жанчына, якая прасіла — мусіць, здагадваецеся чаму — не называць яе прозвішча):** У час канфлікту ў Дубасарах быў арыштаваны мой муж. У мяне на руках — двое маленькіх дзяцей, якія могуць зараз застацца без бацькі.

Сэрца крывёй абліваецца, калі даходзяць звесткі, як абыходзяцца з вязнямі ў кішынёўскай турме... Я ўжо не кажу пра тое, што не прымаюцца перадачы, не дапускаюцца адвакаты. Ужо цяпер, да суда, арыштаваных там публічна ганьбяць як «купку бандытаў». Зусім як у сталінскія часы...

Няўжо не зразумеюць палітыкі, якімі б прыгожымі лозунгамі яны ні прыкрываліся, што ўся гэтая кроў, усе нашы слёзы — на іх сумленні?

**Людміла ДРАЗДОВА.**

**Сёння патрэбны рашучыя дзеянні па спыненню вострага процістаяння на Днястры, бо ўгаворамі канфліктуючых ужо не памірыць. Што, дарэчы, добра бачна па выказваннях прадстаўнікоў абодвух бакоў, якія вы маеце магчымасць прачытаць у нашай газеце. Таму, здаецца, варта было б без прамаруджвання звярнуцца да ААН з прапановай стаць пасрэднікам у спыненні вайны, якая пагражае набыць міжнародны характар.**

## Парады аўтааматарам

**Аўтатурысты, якія начуюць у халоднае надвор'е ў аўтамабілі ці палатцы, могуць абагрэцца пры дапамозе каністры з гарачай вадой. Запасу цяпла хапае на падагрэў паветра на працягу ўсёй ночы.**

***

Няправільна эксплуатуемы аўтамабільны акумулятар сульфаціруецца і заўчасна выходзіць са строю. Гэты недахоп можна пераадолець, калі прамыць акумулятар водна-аміячным растворам трылону Б. Для гэтага з акумулятара зліваюць электраліт, прамываюць дыстыляванай вадой і на адну гадзіну запаўняюць яго 5- працэнтным водным растворам аміяку з дабаўленнем 2 працэнтаў трылону Б. Затым раствор зліваюць, а акумулятар некалькі разоў прамываюць дыстыляванай вадой. Пры моцнай сульфатацыі прамыванне паўтараюць. Пасля гэтага заліваюць электраліт і заражаюць акумулятар.

***

**Вада, якая практычна блізкая па сваіх уласцівасцях дыстыляванай, можа быць атрымана з ледзяной «рубашкі», якая намярзае ў дамашнім халадзільніку. Гэта вада прыгодная для заліўкі аўтамабільных акумулятараў.**

***

У алюмініевых каністрах ножкамі служаць выштампаваныя бугаркі на днішчы. Пры эксплуатацыі бугаркі-ножкі сціраюцца аб асфальт, і каністра пачынае працякаць. Будзьце прадбачлівымі — прыклейце на бугаркі клеем «Момант» гумавыя пласціны. Каністра стане больш устойлівай і даўжэй застанецца цэлай.

***

**Пробка пластыкавай каністры часта губляецца. Можна зрабіць у ёй адтуліну і, прапусціўшы праз яе лёску, расплавіць яе канец так, каб адтуліна поўнасцю запаялася. Другі канец лёскі прывязваецца да ручкі каністры.**

***

Калі ў аўтамабілі пасля неаднаразовай пракачкі сістэма педаль тормаза застаецца «мяккай», а вадкасць не цячэ, то, напэўна, вінаватыя гумавыя манжэты ў тармазных цыліндрах. Іх працаздольнасць можна аднавіць. Для гэтага манжэты з роўнай чыстай рабочай паверхняй кладуць у раствор харчовай соды (1 чайная лыжка соды на 500 мл вады) і кіпяцяць 5 хвілін. Затым зліваюць раствор і наліваюць у посуд халодную ваду. Пасля ахаладжэння манжэты выціраюць насуха, змазваюць тармазной вадкасцю і надзяюць на поршні.

213

***

**Адрэзак тоўстай гумавай трубкі, шчыльна надзеты на вентыль камеры, дае магчымасць напампоўваць яе помпай без уцечкі паветра паміж шлангам і вентылем.**

## Што рабіць, калі...

### ТРЭБА ПАДЗЯЛІЦЬ ЦАГЛІНУ НА РОЎНЫЯ ЧАСТКІ

Звычайнымі інструментамі зрабіць гэта няпроста. Вядома, што яна нават у руках вопытнага муляра іншы раз разлятаецца на дробныя кавалачкі. Каб гэтага не адбылося, можна скарыстаць простае прыстасаванне. З яго дапамогай цагліна рэжацца, як масла. У аснове такога прыстасавання звычайная труба, выгнутая падковай. Ва ўнутраную яе частку ўстаўляецца стальное палатно ад слясарнай пілы. Яно ўмацоўваецца ў прапілах, зробленых у верхніх сагнутых канцах трубы-падковы. Паклаўшы цагліну на палатно, можна адным ударам малатка зрабіць роўны зрэз.

### АДНОЙ АДВЁРТКАЙ ТРЭБА АДКРУЦІЦЬ І МАЛЕНЬКІ, І ВЯЛІКІ ШУРУПЫ

Неабходна затачыць джала адвёрткі па-новаму. Звычайна яно плоскае і падыходзіць або для буйных вінтоў, або для дробных. Калі зрабіць джала камбінаваным, затачыўшы яго з паўкруглымі падоўжнымі пазамі, крайнімі часткамі адвёрткі лёгка будзе закручваць буйныя шурупы, а сярэдняй — дробныя. У рабочай кромкі такой адвёрткі пераменная таўшчыня, а яе сячэнне нагадвае дваякаўвагнутую аптычную лінзу. Такой адвёрткай лёгка закруціць шуруп з любой шырынёй паза.

### ШКЛО ЗАБРУДЗІЛАСЯ

Перш за ўсё яго трэба працерці ад пылу, затым змазаць якім-небудзь шклоачышчальнікам. Падыдзе і раствор мелу. Пасля таго як ён высахне, працерці шкло анучкай, якая не пакідае ворсу, а пад канец — скамечанай газетнай паперай.

Яшчэ адзін спосаб. Кавалак мешкавіны змочваюць растворам мелу і праціраюць ім шкло. Падсушыўшы, мел здымаюць чыстай анучкай.

Засохлую фарбу на шыбе лепш саскрэсці лязом. Свежую здымаюць са шкла тампонам, змочаным шкіпінарам. Асаблівы бляск шклу надае праціранне яго дэнатуратам.

214

### ПАТРЭБНА НАДЗЕЙНАЯ ПРОБКА ДЛЯ ЦВІКА

Убіць яго ў сцяну не так проста. Спачатку ў ёй свідруюць адтуліну дрэллю ці цвёрдасплаўным прабойнікам, затым у атрыманую адтуліну ўстаўляюць драўляную ці пластмасавую пробку, а пасля ў пробку ўбіваюць цвік. Пробкі робяць з кавалачка дрэва ці пластыкавай ізаляцыі. Але можна выкарыстаць і звычайны канцылярскі сілікатны клей (вадкае шкло). У адтуліну пад пробку ў сцяне набіваецца марля, змочаная такім клеем. Затым устаўляецца шуруп або цвік. Калі клей высахне, атрымліваецца маналітная пробка з шурупам або цвіком.

### ПАЦЯКЛО ВЯДРО

Не спяшайцеся яго выкідваць. Калі акуратна выразаць дно і закрыць яго металічнай сеткай, папярэдне замацаваўшы яе па краях вядра, атрымаецца цудоўная ёмістасць для караняплодаў. Пры зборы ўраджаю бульбы, буракоў, морквы такая ёмістасць дапаможа хутчэй ачысціць караняплоды ад глебы. Падсохшая зямля, дробная трава і каменьчыкі, прыліпшыя да караняплодаў, правальваюцца праз сетку, значыць, дадатковай ачысткі іх не патрабуецца.

## Крыху аб прадуктах

**АДБІВАЦЬ МЯСА ЛЕПШ на драўлянай дошцы, змочанай халоднай вадой, таму што сухое дрэва ўбірае мясны сок. Паніраваць трэба непасрэдна перад смажаннем.**

**СЫРОЕ МЯСА саліць перад самой цеплавой апрацоўкай, інакш соль выклічa выдзяленне мяснога соку і пагоршыць смак мяса. Азу, гуляш, бефстрoганаў лепш саліць у час тушэння.**

**КАЛІ ЯЛАВІЧЫНУ НАЦЕРЦІ парашком гарчыцы і праз некаторы час прамыць у халоднай вадзе, то пасля варкі яна будзе мякчэйшай і больш сакавітай.**

**КАБ ЦЫБУЛЯ ПРЫ СМАЖАННІ кольцамі была залацістага колеру і не падгарала, пасля наразання яе паніруюць у пшанічнай муцэ. Наразаць агародніну трэба па магчымасці аднолькавай таўшчыні і формы.**

215

## Стол сваімі рукамі

**У наш час спадзявацца на тое, што хутка набудзеш мэблю ў магазіне, — справа марная. Аднак жа кожны гаспадар мае ў сваім хатнім «арсенале» пілу, рубанак, стамеску, іншы сталярны інструмент. Таму раім паспрабаваць свае сілы ў сталярнай справе і зрабіць сваімі рукамі вось такі арыгінальны абедзенны стол у вясковым стылі, чарцяжы якога змясціў венгерскі часопіс «Эзермештэр».**

Асаблівасцю яго канструкцыі з'яўляюцца клінавыя злучэнні дэталей. Дзякуючы гэтаму зборка стала вядзецца без клею. А гэта, з аднаго боку, прыкметна спрашчае работу, а з другога, дае магчымасць заўсёды падцягнуць вузел, які злучае стальніцу з апорай, калі ён расхістаецца.

Матэрыялы, патрэбныя для вырабу такога стала: дошкі шырынёй не больш за 25 сантыметраў і брускі розных памераў. Точаных і гнутых дэталей няма. Усё плоскае, аднак, дзякуючы фігурнай форме асновы стала (хоць дошкі тут патрэбны таўшчынёй прыкладна 30 міліметраў), ён мае пластычны выгляд.

На чарцяжах паказаны аптымальныя размеры. Можна ўзяць і таўсцейшыя дошкі — стол будзе больш трывалым, а галоўнае — устойлівым.

НА ЧАРЦЯЖАХ: 1. Дэталі канструкцыі стала. 2. Вузел злучэння стальніцы і апоры. 3. Варыянты вырабу апор стала.




216

